


# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 26 (1113) ГОД XXII БЕЛСТОК 26 ЧЭРВЕНЯ 1977 г. ЦАНА 60 гр.

**Пуцяводныя думкі**

Трэба было б уключыць у мукі пекла вечную бяздзейнасць, а яе якраз, наадварот, змясцілі сярод радасцей раю.

*М. Мантэнь*

Тое, што бяздзейнасць шчасце, а праца пакаранне — дзіўная і шкодная памылка.

*Л. Талстой*



У гэтым будынку гданьскай „староўкі“ мае сваю сядзібу гурток БГКТ.



*Памятны здымак калектыву з Гарадка ля славутага Нептуна.*

## НА ПАСЯДЖЭННЕ Ў ГДАНЬСК

5 чэрвеня, у вольную ад працы суботу, выяздное пасяджэнне Прэзідыума ГП БГКТ, прысвечанае абмеркаванню дзейнасці гданьскага, варшаўскага і беластоцкага клубаў, адбылося ў памяшканні гуртка БГКТ у Гданьску. Была гэта выключная паездка, таму што разам з членамі Прэзідыума ГП ехаў гарадоцкі жаночы хор пад кіраўніцтвам Сцяпана Копы. Хор даў канцэрт у святліцы Украінскага таварыства для членаў БГКТ і яго сімпатыкаў. Прыбыло на выступленне хору шмат жыхароў Гданьска, людзей, якія працуюць пераважна ва ўстановах і на прадпрыемствах, звязаных з морам, з суднабудаўнічай і рыбнай прамысловасцю. Канцэрт быў успрыняты сардэчна, з вялікай удзячнасцю прысутных, сярод якіх шмат было выхадцаў з Беласточчыны, у тым ліку і з беларускіх вёсак.

З гэтых жа людзей складаецца таксама амаль 100-асабовы гданьскі гурток БГКТ, які паводле сваіх магчымасцей разгортвае там культурна-асветную дзейнасць. Формы яго працы прадставіла на пасяджэнні сакратар гуртка Анна Красько. Зводзяцца яны ў асноўным да арганізоўвання урачыстых вечароў, звязаных з адзначэннямі дзяржаўных гадавін, спатканняў з цікавымі людзьмі, у тым ліку з прадстаўнікамі савецкага народа, а таксама з літаратарамі клуба БГКТ „Белавежа“, праслухоўванняў грампласцінак і магнітафонных запісаў, лекцый і г.д.

(Працяг на стар. 4)

## З КУПАЛЬСКАЙ АБРАДНАСЦІ

Купалле, якое святкавалася ў ноч з 24 на 25 чэрвеня, пышнасць сваёй абраднасці чэрпала з буйнага росквіту сіл прыроды, уласцівага для гэтай пары года, што ў немалой ступені ўздзейнічала на ўяўленне людзей. У гэту ноч (ноч св. Яна) уся прырода, асабліва раслінны свет, набірае найбольшай моцы, адзначаецца магічнымі вартасцямі. Таму вялікае значэнне Купаллю прыдавала народная медыцына. Напярэдадні св. Яна знахары і людзі, якія стараліся засцерагчыся ад хвароб, збіралі зёлы і кветкі, знаныя з лячнічых вартасцей. Звязана гэта са старажытнымі вераваннямі, у якіх вырашаўся праславянскі культ раслціннасці, а менавіта: сабранае напярэдадні Купалы зелле захоўвала ў далейшым магічную сілу і абараняла чалавека ад адмоўных сіл прыроды.

Самым цікавым у купальскай абраднасці з'яўляецца глыбока закаранелае ва ўяўленні людзей павер'е ў магічны свет „ведзьмаў“ — жанчын, якія ў выніку адступлення ад веры і бога звязаліся з адмоўнымі сіламі прыроды. „Жанчыны-ведзьмы“ характарызаваліся варожымі адносінамі да чалавека, яго працы і, апрача гэтага, здольнасцямі перамены ў жывёлу — найчасцей „коропаву“-жабу, вужаку-змяю або кошку. Абернутая ў жывёлу ведзьма, калі знаходзілася перад непасрэднай пагрозай смерці, прымала выгляд канкрэтнай жанчыны. Абярнуцца ў жывёлу мог таксама чалавек, які свядома або выпадкова выканаў магічна-заклінальнае дзеянне. Каб ператварыць ведзьму з жывёлы ў жанчыну, трэба было, паводле інфарматараў, махнуць мятлой налева.

Ведзьму можна было ўбачыць, не толькі злавіўшы яе на вядзьмарскіх практыках. Для гэтага трэба было ў вялікі чацвер (перад вялікаднем) пакінуць за губой кусок хлеба — паводле другіх інфарматараў — кусочак сыра). Ранкам, выняўшы з-за губы хлеб або сыр, належала завязаць яго на жываце ў сарочцы. На вялікдзень, стоячы ў царкве з завязаным на жываце хлебам або сырам, трэба было чакаць, пакуль вачам пакажацца ведзьма з даёнкай на галаве. Каб заспакоіць цікавасць і ўбачыць ведзьму, людзі выкарыстоўвалі і другі, больш сур'ёзны спосаб магічных дзеянняў, а менавіта з кветак белага гароху ўплятаці на вянчальнае кальцо вянок. Чакалі з ім на вялікдзень у царкве, угледаючыся ў кальцо, пакуль у ім не пакажацца ведзьма з даёнкай і цадзільнікам на галаве.[1])

Найбольш характэрнай праявай шкоднай дзейнасці пераменевых у жывёлу „жанчын-ведзьмаў“ было адбіранне ў кароў малака. У купальскую ноч „ведзьма“, апранутая ў чорную вопратку, сядала на мятлу і, ліжучы ключ ад замка, шаптала: „Чыста водіця, чыста водіця, пэрэміні свуой здруой на коровін удуой“.[2]) Пасля заклёну адпраўлялася вышукоўваць ахвяру.

Людзі, каб забяспечыцца перад непажаданым візітам ведзьмаў, перад сном абыходзілі тры разы свае будынкі, хату, клуню, а пераважна хлеў, пры гэтым затыкалі клямкі (замкі) крапівою, паўтараючы словы заклёну: „Шугі, віедьма, на лугі“.[3]) У незабяспечаны такім чынам хлеў ведзьма, пераменeная ў вужаку-змяю або „коропаву“-жабу, адкрывала пры дапамозе ключа дзверы і, узабраўшыся на вымя каровы, адбірала малако. Са злоўленай на гэтым ведзьмай людзі абыходзіліся вельмі жорстка: білі яе палкамі, ажно акалечаная жаба або змяя аказвалася знаёмай „жанчынай-ведзьмай“. З расказаў інфарматараў вынікае, што існавалі сярод насельніцтва змагары з вядзьмярскай дзейнасцю жанчын. У выпадку сцвярджэння ў хляве прысутнасці ведзьмы, да іх звярталіся менш рашучыя жыхары вёсак. Каб вярнуць карове адабранае малако, трэба было яго рэшткі працадзіць праз „зелле-росіцю“.

Павер'е ў ачышчальную моц гэтага зелля звязана з праславянскім культам расліннасці, рэшткі якога, дайшоўшы да нашых дзён, сведчаць аб пышнасці святкавання ў мінулым. Сарваную напярэдадні ночы св. Яна „расіцю“, жанчыны запляталі ў вянок і свяцілі яго ў царкве дзеля ўзмацнення магічнай вартасці.

(Працяг на стар. 4)

ЗАЛОГ ЛЕПШАЙ НАШАЙ БУДУЧЫНІ

## УСІХ МІЛЬЁНАЎ НЕ ПЕРАЛІЧЫЦЬ

Шукаючы крыніц лепшай будучыні, пабывалі мы ў многіх мясцінах усходняй часткі Беластоцкага ваяводства, перш за ўсё ў тых мясцінах, якія адзначаны шыльдай SKR. Наш спадарожнік, прадстаўнік Ваяводскага праўлення Саюза сельскагаспадарчых гурткоў, інжынер Мікалай Андрэюк, на гэты раз прапанаваў мне паездку ў напрамку Саколкі і Дубровы.

— Асабліва, — гаварыў ён, — варта наведаць вёску **Красняны.** Гэта ў Сакольскай гміне, некалькі кіламетраў за Саколкай, па дарозе ў Дуброву. Там сакольская спулдзельня сельскагаспадарчых гурткоў рашыла пабудаваць цэлы **жывёлагадоўчы комплекс: 2 хлеўні, у якіх змесціцца 3600 штук кормнікаў і 1200 свінаматак.** Аднагасова будзе ў Краснянах сушылка і ўстаноўка для змешвання кармоў, а таксама і тэхналагічная лінія для перапрацоўкі звычайнай саломы.

— Значыць, штосьці падобнае, як у Кляшчэлях, — укідваю я свае слова.

— Так, гэта такі ж самы прынцып

(Працяг на стар. 4)

# ТРЫВАЛЫЯ ЗДАБЫТКІ БЕЛЬСКА

Сёлетнія Дні Бельска, што 27–29 мая адзначаліся ў гэтым старажытным і заслужаным для нашага рэгіёна горадзе, былі вельмі багатыя рознымі цікавымі мерапрыемствамі: былі даклады, выступленні, канцэрты, інсцэнізацыі школьнікаў на гістарычныя тэмы, маладзёжныя гульні і спаборніцтвы, народныя гулянні. Сярод гэтага багацця мерапрыемстваў, пра якія старанна паклапаціліся гаспадары горада і арганізатары ўрачыстасцей, два заслугоўваюць на асаблівую ўвагу, бо яны трывала ўпісаліся ў гісторыю горада над ракою Белай.

Першае з іх — гэта даклад настаўніка Бельскага беларускага ліцэя **С. Януцкага** „Пачаткі народнай улады на Бельшчыне“, з якім ён выступіў перад грамадскасцю горада. Аўтар многае пачарпнуў з нявыкарыстаных дагэтуль архіўных матэрыялаў і ўспамінаў удзельнікаў тых гарачых гадоў. Паўстала вельмі цікавая і каштоўная па сваіх пазнавальных вартасцях праца.



*Разьба па дрэву народнага ўмельца У. Наўмюка з вёскі Канюкі, гм. Заблудаў.*

Другое ж сваім значэннем выходзіць па-за межы Бельскай зямлі. Намаганнямі таварыства прыяцеляў Бельска, пры садзеянні і падтрымцы гарадскіх уладаў частка старажытнай бельскай ратушы перададзена на Бельскі рэгіянальны музей. Адкрываючы яго, старшыня таварыства прыяцеляў Бельска **Т. Вільгат** падкрэсліў, што аб'ект будзе служыць высакароднай справе захавання багатай спадчыны, якую пакінулі папярэднія пакаленні жыхароў гэтай зямлі. І ўжо першыя крокі Бельскага музея сведчаць аб тым, што ён будзе належна выконваць такую ролю. У ім, для пачатку, Беластоцкі акруговы музей арганізаваў выстаўку „Помнікі народнай культуры“, на якой паказана звыш 150 экспанатаў у асноўным з абшару паўднёва-ўсходняй Беласточчыны, а дакладней, з міжрэчча Нарва-Буг — ніжняе цячэнне Нурца. Прадстаўляюць



*Ганчарныя вырабы з Кляшчэляў, Лукі, Сямяцічаў і іншых суседніх з Бельшчынай ваколіц.*

яны розныя галіны матэрыяльнай культуры: землярробчыя прылады, ганчарства, кавальства, вырабы з саломы, узоры вопраткі і тканін, разьбу па дрэву, абрадавае цеста і інш. Адкрываючы выстаўку, працаўніца Беластоцкага акруговага музея **Я. Гасціловіч** заўважыла, што паслужыць яна паказным урокам і прыкладам для жыхароў Бельшчыны і суседніх з ёю ваколіц, на якія прадметы неабходна звярнуць асаблівую ўвагу пры збіранні экспанатаў для музея. Беластоцкі этнограф **З. Цясельскі**, знаёмячы першых наведвальнікаў музея з выстаўленымі там экспанатамі, а таксама выступаючы ў Бельскім доме культуры з дакладам „Культурныя традыцыі Бельскай зямлі“, даў дасканалую ўводную лекцыю аб незвычайнай разнастайнасці і багацці народнай матэрыяльнай культуры гэтага абшару, на якім адметную ролю адыгрывае беларускі элемент.

Пакуль што ў Бельскім рэгіянальным музеі будуць праводзіцца выстаўкі экспанатаў са збораў Беластоцкага акруговага музея, Музея Войска Польскага ў Беластоку і іншых музеяў. Але не толькі.

Таварыства прыяцеляў Бельска ўжо сабрала некалькі дзесяткаў цікавых экспанатаў, якія выстаўлены ў асобным пакойчыку музея. Добры гэта пачатак у вялікім грамадскім пачыне, накіраваным на стварэнне музея. Бельскія дзеячы ўжо звярнуліся з заклікам да грамадства шукаць, збіраць і перадаваць у музей прадметы матэрыяльнай культуры. Асабліва важнае месца павінны заняць тут школьныя і маладзёжныя арганізацыі, бо ўдзел у гэтым пачыне — гэта наглядны ўрок па гісторыі роднага краю і патрыятызму для маладога пакалення.

**М. Гайдук**
**Фота аўтара**



*Землярробчыя прылады ў Бельскім рэгіянальным музеі.*

# Пытанні па беларускай мове для кандыдатаў на беларускую філалогію В.У.

1. Назавіце важнейшыя рысы беларускай мовы, якія адрозніваюць яе ад польскай.

2. Назавіце важнейшыя рысы беларускай мовы, якія адрозніваюць яе ад рускай.

3. Пакажыце на прыкладах, чым адрозніваецца вядомая вам гаворка ад беларускай літаратурнай мовы.

4. Як вы разумееце тэрміны *дзеканне* і *цеканне*? Выясніце на прыкладах.

5. Як вы разумееце тэрмін *аканне*? Выясніце на прыкладах.

6. Якія зычныя могуць падаўжацца ў беларускай мове? Дайце прыклады.

7. Дайце прыклады на падаўжэнне і падваенне зычных.

8. Прыстаўныя галосныя гукі ў беларускай літаратурнай мове.

9. Прыстаўныя зычныя гукі ў беларускай літаратурнай мове.

10. Правілы пераходу *у, л, в,* у *ў* (нескладовае).

11. На якія групы падзяляюцца ніжэй дадзеныя словы з пункту погляду словаўтварэння: *стол, саломіна, лістапад, падаконнік, кухня.*

12. Падай і прааналізуй прыклады слоў, якія словаўтваральна падзяляюцца і не падзяляюцца.

13. З якіх элементаў складаюцца вытворныя словы? Для адказа можаце выкарыстаць наступныя прыклады: *хатка, падпісаць, прыезд, зеленаваты, Адамовіч* і іншыя.

14. Назавіце галоўныя спосабы ўтварэння новых слоў у беларускай мове. Дайце прыклады.

15. Ад якіх часцін мовы ўтвараюцца назоўнікі? Зрабіце аналіз слоў тыпу: *студэнтка, галоўка, маладосць, Беласток, вадавоз, чытач, водгук* з пункту погляду іх утварэння.

16. Ад якіх часцін мовы ўтвараюцца прыметнікі? Прааналізуйце з гэтага пункту погляду прыметнікі: *сельскі, сіняваты, доўгавечны, нястрымны, непраходны.*

17. Ад якіх часцін мовы ўтвараюцца дзеясловы? Прааналізуйце з гэтага пункту погляду словы: *чырванець, старэць, збабець, напісаць, зацягнуць.*

18. Што такое корань слова, прыстаўка, суфікс? Выдзеліце гэтыя часткі ў словах: *сталочак, падводны, напісаць.*

19. Як утвараюцца ступені параўнання прыметнікаў і прыслоўяў?

20. Закласіфікуйце да адпаведных часцін мовы словы ніжэй дадзенага сказа: *Пад вялізным старым дубам зграмадзілася кучка людзей, чалавек пад трыццаць.*

21. Як вышэй — *Адзін з іх быў стары, з рэдкай барадой, другі — малады, зусім яшчэ юнак.*

22. Як вышэй — *Мы з Карнеем Пятровічам ішлі павольна, ціха гутарыўшы.*

23. Да якой часціны мовы належыць слова *ўздоўж* у наступных сказах:

*Янка пабег ўздоўж дарогі.*
*Не хадзі ўздоўж, ідзі ўпоперак.*

Якія ведаеце яшчэ прыклады прыналежнасці слоў да розных часцін мовы?

24. Якія канчаткі ўжываюцца ў месным склоне адзіночнага ліку назоўнікаў мужчынскага роду? Ад чаго залежыць выбар адпаведнага канчатка?

25. Дайце прыклады дзеясловаў I і II спражэння. Утварыце ад іх загадны лад і дзеяпрыметнікі.

26. Утварыце ад дзеясловаў *чытаць, гаварыць* усе магчымыя формы.

27. Зрабіце сінтаксічны разбор сказа: *Горка часам праца, ды хлеб ад яе салодкі.*

28. Зрабіце сінтаксічны разбор сказа: *Доўга пазіраў ён на вогнішча начлежнікаў, якое свяцілася з блізкай пасекі.*

29. Як вышэй: *Хто не спытаў хоць раз трывогі, жыццю не ведае цаны!*

30. Які выказнік называецца дзеяслоўным, а які іменным? Падайце прыклады.

31. У дадзеных ніжэй сказах выдзеліце дзейнікі і скажыце, якімі часцінамі мовы яны выражаны.

(Працяг на стар. 5)

# З жыцця клуба БГКТ у Варшаве

У памяшканні БГКТ на Сенатарскай на працягу другога квартала г.г. адбыліся наступныя мерапрыемствы:

**20.IV.** адбылася сустрэча з дац. др Уладзімірам Казберуком, навуковым супрацоўнікам Інстытута літаратуры імя Якуба Коласа Акадэміі навук БССР. Ул. Казбярук расказаў пра даследчыцкую і выдавецкую дзейнасць інстытута, які ў паразуменні з Акадэміяй навук ПНР скіраваў яго ў польскія архівы для пошукаў матэрыялаў адносна польска-беларускага літаратурнага супрацоўніцтва ў мінулым.

Ул. Казбярук, выхадзец з Беласточчыны, добра ведае літаратурны рух у Народнай Польшчы. Ён з'яўляецца аўтарам уступу да зборніка „Літаратурная Беласточчына“, выдадзенага ў БССР, а таксама многіх рэцэнзій аб творчасці нашых „белавежцаў“.

27.IV. адбыўся аўтарскі вечар Аляксея Апалінскага, аўтара абшырнага ўступу да паэтычнага зборніка В. Шведа „Дзяцінства прыстань“. На вечары было прачытана апавяданне А. Апалінскага „Металічны грэбень“, якое друкавалася ў газеце „Літаратура і мастацтва“ ў Мінску. Прачытанае апавяданне, якое датычыць трагедыі адной беларускай вёскі, а на фоне гэтай трагедыі неймаверных перажыванняў адной уцалеўшай жанчыны, было высока ацэнена прысутнымі на вечары слухачамі.

4.V. на Сенатарскай выступіў паэт Аляксей Казбярук, які паходзіць з Юшкавага Груда на Беласточчыне, а цяпер пражывае і працуе ў Варшаве. А. Казбярук піша па-польску, з'яўляецца членам Саюза польскіх пісьменнікаў. Выдаў чатыры паэтычныя зборнікі і пяты зборнік паэтычнай прозы пад загалоўкам „Харакірыя“.

18.V. адбыўся аўтарскі вечар паэта Дзмітрыя Шатыловіча. Інжынер па спецыяльнасці, працуючы ў праектным бюро ў Варшаве, ён не мае шмат часу на тое, каб шырэй займацца літаратурнай творчасцю. Таму Д. Шатыловіч піша нямнога, аднак яго вершы, друкаваныя на літстаронцы ў „Ніве“ і ў літаратурных альманахах, выклікаюць вялікае зацікаўленне з боку чытачоў. У паэтычнай творчасці Д. Шатыловіча няма нічога надуманага, аўтарскай фантазіі. Яго вершы гэта аўтэнтычныя перажыванні ваеннага часу, перажыванні, вынесеныя з роднай вёскі, а таксама рэфлексіі з замежных экскурсійных паездак.

8.VI. адбылася сустрэча з абсальвенткай беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта Верай Цімафеюк. Вельмі вобразна і цікава ахарактарызавала В. Цімафеюк абраднасць і багаты фальклор вёскі Пярэева, што ляжыць на ўскраіне Белавежскай пушчы. Абрадны і фальклорны матэрыял вёскі Пярэева, якая не з'яўляецца роднай вёскай даследчыцы, паслужыў тэмай да напісання надзвычай цікавай магістэрскай працы.

**В. Ш.**

 

рую падзяку настаўнікам і вучням за супольна ўложаны труд як у школе, так і ў грамадскай працы. На 59 былых вучняў атэстат сталасці атрымала 56 асоб. З гэтай колькасці чацвёра з'яўляецца ўжо студэнтамі вышэйшай школы. Гэта Уладзімір Зенюк, якога накіравалі ў Вайсковую тэхнічную акадэмію, Васіль Дамброўскі — педагагічны напрамак гісторыі, Вера Гаворка — Медыцынская акадэмія, а Галена Пракапюк, якая яшчэ ў студзені паспяхова здала кваліфікацыйны экзамен, будзе славіць добрае імя сваёй школы ў Савецкім Саюзе.

І вось, склаўшы прысягу выпускнікоў, усе яны сталі на парозе новага жыцця. Перад імі шырокія воды і рознае плаванне ў пошуках свайго берагу. Але адно ёсць пэўнае, што як іх папярэднікі, так і яны ўтрымаюць добрае імя сваёй школы.

**Міхась Шаховіч**

Фота Янкі Цялушэцкага



*Па атэстат сталасці падыйшла выпускніца Крыся Парфенюк з Бельскага ліцэя.*

# Ф·А·Л·Ь·К·Л·О·Р

### ХРЫСЦІННАЯ

Allegro

І кі-ва-ла, і муўр-га-ла су-сед-ка на мэ-нэ:

— Кі-дай жы-то мо-ло-ті-ті — пры-хо-ді до мэ-нэ,

кі-дай жы-то мо-ло-ті-ті — пры-хо-ді до мэ-нэ

*І ківала, і муоргала*
*сусіедка на мэнэ:*
*— Кідай жыто молотіті —*
*прыході до мэнэ,*
*кідай жыто молотіті —*
*прыході до мэнэ.*
*Ой, прыді ты, красны хлопчэ,*
*ой, хоч на годінку,*
*а я свого старэнького*
*вышлю по калінку,*
*а я свого старэнького*
*вышлю по калінку:*
*— Іді, стары, бородаты,*
*каліны ломагі,*
*бо напаў жэ мэнэ кашэль —*
*нэ пэрэйду хаты,*
*бо напаў жэ мэнэ кашэль —*
*нэ пэрэйду хаты.*
*Пошуов стары, бородаты*
*каліны ломаті,*
*а я свого міленького*
*ўпустіла дохаты,*
*а я свого міленького*
*ўпустіла дохаты.*
*Ідэ стары, бородаты —*
*уходіт до хаты:*
*як стояла, так і ўпала —*
*зачала стогнаті,*
*як стояла, так і ўпала —*
*зачала стогнаті:*
*— Іді, стары, бородаты,*
*мэду колупаті,*
*бо напаў жэ мэнэ кашэль —*
*нэ пэрэйду хаты,*
*бо напаў жэ мэнэ кашэль —*
*нэ пэрэйду хаты.*
*Пошуов стары, бородаты*
*мэду колупаті,*
*а я свого міленького*
*выпустіла з хаты,*
*а я свого міленького*
*выпустіла з хаты.*
*Ішоў хлопэць молоды*
*чэрэз тры городы,*
*заплёнтаўся ў гарбузы —*
*то й наробіў шкоды,*
*заплёнтаўся ў гарбузы —*
*то й наробіў шкоды.*
*А як выйшов із кропівы,*
*то й став на грудочку —*
*одна нэсэ штаны, штаны,*
*а друга сорочку,*
*одна нэсэ штаны, штаны,*
*а друга сорочку.*
*— Которая нэсэ штаны —*
*тая моя будэ,*
*а котора сорочэньку —*
*пушчу міжы людэ,*
*а котора сорочэньку —*
*пушчу міжы людэ.*

Ад Веры Міхалюк, 56 год, вёска Курашава гм. Чыжы, запісаў 3 лютага 1977 г. Мікалай Гайдук. Нотная транскрыпцыя з магнітафоннай стужкі Людмілы Панько.

# ПРЫРОДА І ЧАЛАВЕК У ПАЭЗІІ

Ужо други год падрад Гарадскі дом культуры ў Беластоку, Ліга аховы прыроды, Ваяводскае прадпрыемства турыстычных паслуг і Гарадскі аддзел культуры ў Беластоку арганізуюць дэкламатарскі конкурс на тэму „Чалавек і прырода ў паэзіі". У бягучым годзе адбыўся ён першага чэрвеня ў лесе ля мясцовасці Маёўка, што па дарозе з Беластока ў Гарадок, і прыняло ў ім ўдзел дваццаць шэсць вучняў з трынаццаці сярэдніх школ Беласточчыны. Доўга, зліваючыся з шумам лесу і пераклічкай птушак, узляталі з вуснаў дэкламатараў радкі прыродаапісальнай паэзіі. І толькі дзесьці пасля поўдня, праслухаўшы ўсіх дэкламатараў, журы прачытала прозвішчы найлепшых, уручаючы ім узнагароды. Першае месца заняў Яраслаў Дунай вучань 3 агульнаадукацыйнага ліцэя ў Беластоку, і атрымаў ва ўзнагароду двухтыднёвыя канікулы над Бугам, прызнаныя Ваяводскім прадпрыемствам турыстычных паслуг. Другое заняла Еля Казлоўская з 6 беластоцкага агульнаадукацыйнага ліцэя, а два трэціх далі Ані Свяжбінскай з 5 агульнаадукацыйнага ліцэя ў Беластоку і Варвары Казлоўскай з ліцэя ў Моньках. Апрача гэтага, было прызнана пяць дыпломаў. Потым, заняўшы месца вакол вогнішча, удзельнікі пачаставаліся смачным бігосам і кампотам, падрыхтаваным арганізатарамі, і, пасля кароткай патанцоўкі, распачалася другая частка — карагод паэтаў, у якім прынялі ўдзел Янка Леанчук, Збігнеў Слёнчка, Сакрат Яновіч, якія, прачытаўшы па некалькі сваіх твораў, прыступілі да конкурсу на напісанне твора на тэму „Карэнні ўрастаюць у нас". Праз дваццаць хвілін, прызначаных на напісанне, і адчытанне перад камісіяй, аўтарам былі раздадзены ўзнагароды ў форме пласцінак і альбомаў раслін. І зноў зайграў аркестр. І зноў патанцоўка. Доўга разліваліся па лесе музыка ды вясёлы гоман і толькі, калі сонца пачало хіліцца да небасхілу, наступіў час звароту ў горад, але ў душы доўга яшчэ гучалі галасы дэкламатараў. (мш)

ло ўдзелена нядаўна створанаму эстраднаму калектыву пад кіраўніцтвам Галіны Лісоўскай.

Найбольшым па колькасці членаў з'яўляецца беластоцкі гуртох БГКТ, у якім налічваецца 644 члены. У клубе, як аб гэтым гаварыла штатны яго працаўнік Марыя Леанчук, найбольш наладжваецца аўтарскіх сустрэч з нашымі літаратарамі, сустрэч з цікавымі людзьмі, вечароў з нагоды дзяржаўных гадавін, бываюць фотавыстаўкі, раз у месяц праводзяцца танцавальныя вечары, т. зв. дыскатэкі, арганізоўваюцца навагоднія балі і ёлкі для дзяцей. Паспяхова працуе харавы калектыў „Каласкі", нядаўна створаныя групы — тэатральная і музычная, ідуць намаганні, каб зноў рэактываваць танцавальную групу. Кожны год клуб клапоціцца аб тым, каб з гарадскога беластоцкага гуртка было як найбольш удзельнікаў у аглядзе беларускай песні.

Беластоцкі клуб, падобна, як гданьскі і варшаўскі, мае сваю спецыфіку, свае цяжкасці і дасягненні. Кожны з гэтых трох клубаў выконвае вельмі важную культурна-выхаваўчую работу. Прэзідыум Галоўнага праўлення станоўча ацаніў іх дзейнасць, выказваючы адначасова некаторыя заўвагі, парады, прапановы. Яны найбольш датычылі гданьскага гуртка, якому ў лістападзе мінае 10 год. У сувязі з гэтай гадавінай вырашана дапамагчы гданьскаму клубу ў яе адзначэнні. Разважаліся таксама магчымасці арганізоўвання навагодніх сустрэч-баляў у Гданьску і Беластоку накшталт варшаўскіх. Пасяджэнне Прэзідыума ГП закончылася прыняццём пастановы аб удасканальванні дзейнасці вышэй адзначаных клубаў БГКТ.

Тэкст і фота **Міхася Хмялеўскага**



*Гданьшчане слухаюць канцэрт харавога калектыву з Гарадка.*

(Працяг са стар. 3)

## Пытанні па беларускай мове для кандыдатаў на беларускую філалогію В.У.

*Шчасліваю доляй жыццё расцвіло.*

*Штосьці блізкае і роднае ёсць у майскім харастве.*

*На ўзлеску стаяць вартавыя і ўважліва аглядаюць наваколле.*

*Адзін з сошкай, а сямёра з лыжкай.*

*Па беразе возера Свіцязь любіў хадзіць Адам Міцкевіч.*

*Дзве фурманкі паволі сунуліся па лясной дарозе.*

*Чалавек пад дзесяць сядзела вакол вогнішча.*

*„Добры дзень таварышы!" пачулася ля ўваходу ў майстэрню.*

Увага! Усялякія прыклады (словы, сказы, фрагменты даўжэйшых тэкстаў), якія знаходзяцца ў пытаннях, могуць быць на экзамене заменены іншымі, аналагічнымі, цяжкімі ў такой жа ступені. У пытаннях пададзены прыкладны ілюстрацыйны матэрыял, каб звярнуць увагу зацікаўленых на тып аналізу і від праблем, уваходзячых у экзамен. Кандыдат у вуз павінен быць падрыхтаваны да ўмення аналізаваць усе падобныя прыклады (на падставе ведаў аб моўных з'явах, ілюстрацыяй якіх яны з'яўляюцца), а не толькі тых, якія знойдзе ў пытаннях.

(Працяг са стар. 2)

## ШТО БУДЗЕ

рапрыемствы па далейшаму развіццю навукі, культуры, асветы, аховы здароўя, павышэнню жыццёвага ўзроўню працоўных рэспублікі. Дастаткова сказаць, што сярэдняя заработная плата рабочых і служачых у 1980 годзе складзе 170 рублёў, новыя кватэры атрымае каля 450 тысяч сямей, будуць аддадзены бальніцы на 9,2 тысячы ложкаў, 11 кінатэатраў і г.д.

Савецкая Беларусь уносіць свой дастойны ўклад у вялікую справу барацьбы СССР, іншых сацыялістычных краін за ўмацаванне ўсеагульнага міру і бяспекі народаў.

Будучы адным з членаў заснавальнікаў ААН, яна ўдзельнічала ў працы ўсіх сесій Генеральнай Асамблеі. Разам з тым Беларусь з'яўляецца членам Міжнароднай арганізацыі працы, ЮНЕСКО, Міжнароднага агенцтва па атамнай энергіі, Міжнароднага саюза электрасувязі і шматлікіх іншых. Яна падпісала дзесяткі міжнародных актаў па палітычных і прававых пытаннях, удзельнічала ў сотнях міжнародных канферэнцый, нарад і сімпозіумаў. БССР у рамках Савецкага Саюза прымае актыўны ўдзел у развіцці міжнароднага і культурнага супрацоўніцтва.

Цяпер савецкія людзі стаяць на працоўнай варце ў гонар 60-годдзя Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі, змагаюцца за датэрміновае выкананне плана другога года дзесятай пяцігодкі. Беларускі народ, як і ўсе працоўныя СССР, пад кіраўніцтвам Камуністычнай партыі дабіваецца новых поспехаў у мірным будаўніцтве, упэўнена крочыць у светлую камуністычную будучыню.

**С. Ясінскі,**
кандыдат філасофскіх навук




*Акруговы калектыў вытворчасці малочных прадуктаў у Гайнаўцы пачаў пастаўляць сваім кліентам новую разнавіднасць смятаны, якая ў халадзільніку ператвараецца ў кіслае малако.*

*Калісь, купіўшы смятану ў краме, праз некалькі дзён можна было рэзаць яе нажом, а зараз і за тыдзень не змяняе свайго віду, як цякла ручайком, так і далей цячэ. Цікава, хто з'яўляецца аўтарам гэтага вынаходніцтва?..*

(ус)



 

